Гарадзенская
# КРЫНІЦА

Як жыць так жыць для Беларусі, а без яе навошта жыць.
БХД

№006, ЛІПЕНЬ 2012



Гарадзенскі сшытак інфармацыі



Партыя БХД ня верыць ў праўдзівыя выбары



Вулкі і будынкі, што фарміравалі архітэктурны ансамбль Гародні



# Маці Божа Чэнстахоўска

Ліпень для вернікаў ўсіх канфесій Прынёманскага краю стаў адметным перыядам часу. Ўпершыню па тэрыторыі нашае вобласці прайшла пелігрымка, што ўшаноўвала памяць абраза Маці Боскай Чэнстахоўскай. Пелігрымку арганізавала Маскоўская праваслаўная Патрыархія. Мерапрыемства ладзілася пад назовам" Ад акеану да акеану" і мела на мэце звярнуць ўвагу грамадзкасці, верных, ўладных да праблемы значнага росту абортаў.Ў Горадні пелігрымку суправаджалі мясцовыя байкеры, вернікі. Сябры БХД далучыліся да дзеі ў горадзе над Нёманам, яны тлумачылі сваё стаўленне да праблемы сям"і ненароджаных дзяцей, раздавалі агітацыйны матэр"ял з заклікамі захавання сям"і, як свабоднай адзінкі грамадзтва.



Вернікі-вуніяты ў чаканні моманту адкрыцця ў Гародні Душпастарскага цэнтра. Менавіта з ўводам гэтага Святога дома можна будзе згадаць, што Вунія, як вера Гасподняя на зямлі Гарадзенскай адраджаецца і хутка займе свой пачэсны пасад, як і ў часы валадарання нн тэрыторыіі ВКЛ Князя Вітаўта Вялікага.



# У калей-даскопе навін БХД

**Справаздача**

Зала ў знакамітым на ўсю Беларусь будынку па вуліцы Будзёнага 48А ў Гародні напаўнялася ад самой раніцы 17 чэрвеня. Дэлегацыі з Ваўкавыску, Слоніма, Свіслачы ўзрушана прывіталі сваіх калег-паплечнікаў Горадні. Ветла і па хрысціянскі сустрэлі чальцоў Цэнтральнай Рады БХД з Менску на чале з сустаршынёй ЦР БХД Віталем Рымашэўскім.

Як і любая дзея, справаздачная сустрэча ў Гародні пачалася з малітвы Ойча Наш. Затым слова ўзяў лідар абласной суполкі БХД Мікола Баўсюк. У прыватнасці спадар Мікола да прысутных выславіўся так:" Шаноўныя сябры мінае час аднак ён добрае люстэрка нашых дэмакратычна-хрысціянскіх спраў на зямлі Бацькаўшчыны. Дзякуючы ініцыятыве актыву БХД Горадні здзейснена вандроўка на Малую Радзіму беларускага багатыра, дэмакрата, патрыёта і арганізатара збройнага народнага чыну супраць акупацыйнага рэжыму тагачаснай імперскай Расеі Кастуся Каліноўскага. У Менску з удзелам дэлегацыі Гарадзеншчыны прайшоў з"езд партыі з хрысціянскім тварам Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя. Штотыдзень кожны аўторак мы праводзілі ў гэтай зале свае пасяджэнні. Абмяркоўвалі рэгіянальныя пытанні. Адным з якіх стала пытанне арганізацыі пры філіі БХД Гародні свайго друкаванага выдання

" Гарадзенская крыніца". Намі праведзена акцыя па ўшанаванню чарговых ўгодкаў абвешчання Беларускае Народнае Рэспублікі. Мы падтрымалі ідэю Цэнтральнай Рады БХД аб байкоце будучых парламенцкіх выбараў. Аднак, сталі ўдзельнікамі клуба васьмі дэмакратычных партый і рухаў у Гародні, дзе сябры нашай партыі змогуць весці назіранне за працэдурай выбараў у Палату Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь. Ў галоўнай святыні Рымакаталіцкай дыяцэзіі Горадні намі праведзена імпрэза па ўшанаванню 95–тых ўгодкаў абвешчання аб стварэнні Беларускае Хрысціянскае Злучнасці. Гэта няпоўны пералік ўсяго чыну чальцоў партыі БХД Гародні. Вы пра гэта ведаеце"

**Перспектывы на бліжэйшы перыяд**

Менавіта тут рэяводца перадаў слова сустаршыні аргкамітэту заснавання парты БХД Беларусі Віталю Рымашэўскаму.

Шаноўны сустаршыня Рымашэўскі сканцэнтраваў свой выступ на двух прыарытэтных накірунках дзеянняў чальцоў партыі на месцах і ў цэнтры. Першы накірунак - гэта актывізацыя работы сяброў партыі па тлумачэнні ідэі байкоту выбараў ў такзваную народам "прапрызідэнцкую Палатку дэпутатаў". Спадар Віталь згадаў так :" Усё роўна ўсе рашэнні прымаюцца ў адміністрацыі прэзідэнта краіны. Менавіта адтуль ідуць рэкамендацыі-загады які закон прымаць, які абмяркоўваць, які як кажуць зарэзаць". На жаль, дадаў выступоўца, і ў прапрэзідэнцкім парламенце ісць яшчэ ініцыятары, што лезуць наперад бацькі ў воду. Вось іх ініцыятывы і замінаюць адміністратарам з адміністрацыі кіраўніка краіны. Задача актыву партыі ісці ў народ тлумачыць безпрынцыпнасць выбараў, абвяргаць дэмакратычнасць выбарчага працэсу вылучэння і рэгістрацыі кандыдатаў ў дэпутаты. Найлепш рабіць такі чын на канкрэтных прыкладах з недалёкай мінуўшчыны і сучасных, а яны будуць асабліва ў адносінах выбарчых камісій да кандыдытаў ў дэпутаты ад апазіцыі".

Другі прыарытэт - гэта праца чальцоў БХД з прадстаўнікамі канфесій. І весці неабходна тут рэй праз Богамзапатрабаваныя справы. Канкрэтна засяродзіць ўвагу святароў паствы над такой праблемай - як аборт. Забіваць толькі што пачатае па волі Бога жыццё самы вялікі грэх. Нашы жанчыны ідуць на гэтае забойства ад страху, што сацыяльна-эканамічныя, фінансавыя ўмовы існавання ў краіне Рэспубліка Беларусь вельмі неспрыяльны для жанчыны-маці мець двух і болей дзяцей. Галоўны вінавайца - гэта існуючы рэжым, які коштам хлусні, гвалту і падтрымкі рэваншысцкі настроеных камуністых і іх нацыянал-дэмакратаў з Расеі губіць беларускую нацыю. Работы ў гэтым рэчышчы шмат.

І гэты агучаны Віталем прыарытэт мае доўгатэрміновыя задачы. Адна з іх ператварыць сучасную ідэю партыі байкоту восненскіх выбараў ва ўсенародны рух пратэсту. Ня быць ўсім астатнім разам з мясцовымі ліберaламі, што заяўляюць аб празмерным жаданні закрыць сваімі кандыдатамі ў дэпутаты ўсе выбарчыя акругі.Аднак, пазаставацца не ў гроне палітыкі сябрам БХД непажадана. Кожны актывіст партыі мае персанальнае права вылучыцца кандыдатам ў мясцовую выбарчыю камісію, альбо стаць назіральнікам.



### Моладзевая палітыка

Цэнтральнай Радай БХД абвешчана аб стварэнні пры партыі маладзёвага руху прыхільнікаў ідэй хрысціянскай дэмакратыі на Беларусі.

Створаны аргкамітэт, маладыя бэхэдоўцы маюць свой электронны адрас ў інтэрнеце, друкаваную перыёдыку. Лідар маладзёвага руху Марына Хоміч таксама наведала Гародню, дзе правяла тлумачальную сустрэчу з моладдзю.

### Справы дабрачынныя

Чальцы абласной філіі выказваюць сваю падтрымку сям"і спадара Пачабута, які раз-пораз знаходзіцца пад пераследам следчых. Да таго ж бэхэдоўцы Гародні ўпэўнены, што Пачабут, як журналіст выконваў свае прафесійныя абавязкі, і меў права выказаць сваю кропку гледжаня на тыя працэсы, што адбываюцца на нашай зямлі.

Разам ўдельнікі абласной справаздачнай канферэнцыі выказалі падтрымку праваслаўнаму святару Мікалаю Гайдуку супраць якога распачаўся суд ў Ленінскім раённым судзе Гародні. Прайшло першае пасяджэнне, якое суддзя вымушана была прыпініць з выпадку няяўкі ў залу суда двух міліцыянтаў. Адзін складаў акт аб прыцягненні ў суд праваслаўнага святара, другі сведчыў. Які вердыкт вынес суд на сваім чарговым пасяджэнні чытайце нататкі нашага карэспандэнта ў рубрыцы " Справы канфесійныя" гэтага нумара.

# Растрэл - не Кара Боская!!!



Прачытала інфармацыю, аб выкананні прысуда "Вышэйшая мера пакарання" ў адносінах да выканаўцаў тэрарыстычнага акту ў метро сталіцы Беларусі Уладзіслава Кавалёва і Дзмітрыя Канавалава. Атрыманыя ўраджанні недавалі пакою душы і прымусілі ўзяцца за пяро.

Жорсткі прысуд, і ня менш жорсткае паспешлівае яго выкананне.

Так не робіцца ў краінах цывілізаванага свету. Там гісторыю арганізацыі, падрыхтоўкі, і выканання тэрарэстычнага акту вывучаюць псіхолагі, псіхіятры, сацыёлагі, спецыяльныя службы. І робіцца такое, дзеля ведання першапрычын такой формы агрэсіі, што пазбаўляе жыцця нявінных людзей. У нас жа аніхто незаняўся вывучэннем гэткай надзённай праблемы. А, як, вядома, -дурны прыклад мае свой непрадказальны працяг. І толькі паслядоўнае вывучэнне акта тэрору можа папярэдзіць паўтор такога ў будучыні. Даць адказы на тыя невядомыя працэсы, што адбываюцца ў душах і кары мозгу маладых беларусаў.

Да чаго такая паспешнасць выканання прысуду? Многім гэта незразумела. Тэрарысты ў руках правасуддзя, пад пільнай аховай, куды ім дзецца, ад пакарання. Ад сівой даўніны вядома, што паспешлівасць дрэнны саюзнік, а ў справе Уладзіслава Кавалёва і Дзмітрыя Канавалава, як арганізатараў, выканаўцаў выбуху ў менскім мятро шмат белых кропак. І для іх зразумення ой як патрэбна шмат ведаць, асэнсаваць, праэксперыментаваць, і толькі тады даць юрыдычна абгрунтаваныя аргументы. Нічога не зроблена. Хлопцы, простыя беларусы, над якімі навек будзе вісець назоў тэрарыст, пазбаўлены жыцця. Яны ніколі не згадаюць аб тых схаваных ў глыбіні душы першапрычынах, што сфарміравалі ў іх сэрцах жаданне да такога жудаснага акту.

Нехта ў сродках масавай інфармацыі спрабуе апраўдаць растрэл, як справядлівае " Возмездие", пры гэтым, традыцыйна дакорліва ківае ў бок Эўропы. А гэта шаноўныя не пазіцыя даць абгрунтаваную адзнаку ролі тэрарыстаў у разбурэнні беларускай мадэлі дэмакратыі і ладу жыцця - гэта ўжо палітыка.

І яшчэ, дзеля прафесійнай этыкі калег- журналістаў, што рыхтуюць рэпартажы пад назовам " Апытанні на вуліцах". Калі запытаюць мяне адкажу, я за розум і здаровы сэнс. Хоць ведаю, яно, зло, павінна быць пакарана.

Аднак ведаючы не звонку, а дасканала з ўнутры, як робяцца заказныя рэпарцёрскія матэр"ялы , і чаго яны варты дадам, не майце спадзеўку, што вы фарміруеце аб"ектыўную грамадзкую думку. Наадварот, вы яе разбураеце і палярызуеце.

# Сшытак Гарадзенскай інфармацыі

### Шукайце кветку Песняра

Папараць- кветку апантана шукаюць беларусы. Існуе запавет, што калі папараць-кветка зазіхаціць ў руках шчаслівага беларуса, на яго Бацькаўшчыне скончацца змрочныя дні.

Тым часам наша грамадзства адзначыла 130-тыя ўгодкі беларускага Песняра Янкі Купалы. Гарадзенцы непазаставілі без ўвагі юбілейную дату. Гонар Янкі Купалы ўшанавалі мясцовыя патрыёты Бацькаўшчыны шматлікімі культурнымі дзеямі.

### Гараднічанка схаваецца ў бетон

Згодна планаў гарадзенскіх архітэктараў прыватны і іншы транспарт будзе хадзіць паза межамі гістарычнага цэнтра горада. Адным з этапаў па разгружанні цэнтральнай часткі горада мяркуецца будаўніцтва дублера вуліцы Вялікая Траецкая. Згодна плана вул.Давыда Гарадзенскага пашыраць да чатырох палос. Яна і стане адной з палавін, будуючагася ўнутранага кальца вакол гістрычнага цэнтру. Працяг кальца ад вуліцы Д.Гарадзенскага будзе накіраваны ля старой харальнай сінагогі па вуліцы Падгорнай (месцы старажытных забудоў Гародні). Па планах жылыя пабудовы будуць знесены. Што стане са старымі яўрэйскімі могілкамі згадаць цяжка. Яр праз які працякае Гараднічанка засыпюць, саму ж раку каналізіруюць і схаваюць у трубы.

### Пракуроры дапамогуць

Пракурорская праверка прайшла надоечы ў гападарках аграрнага сектару Гарадзеншчыны.

Факты, якія выявілі правяраючыя прыводзяць ў жах жыхароў вобласці. Ў кожным раёне, дзе праводзілася праверка выяўлена антысанітарыя, вядзецца недазвольнае зліццё стокаў з фермаў іншых жывёлагадоўчых комплексаў, што наносіць незвяртальныя шкоды навакольнаму асяроддзю. Ў многіх гаспадарках, аграфірмах выяўлены падзеж маладняку. Адміністрацыі агракомплексаў такія факты негаспадарчасці спрабуюць схаваць ад вока правяраючых і грамадзкасці. А вось ў Слонімскім раёне выяўлены факт спробы вывезці мяса двух здохлых кароў за межы вобласці з мэтай продажу яго, як свежага.

Некалі ў Савецкія часы пракуратурай таксама быў выяўлены факт рэалізацыі мяса здохлай жывёлы праз сетку грамадзкага харчавання. Факт меў месца ў Зэльвенскім раёне. Тады мясцовыя дзяльцы з мэтай нажывы рэалізавалі мясныя прадукты праз вясковыя сталоўкі.

### Вяртанне да забытага

Ў Лідзе на вытворчых лініях ААТ “Лідлеі” пачалі прадукаваць масла з сямян ільну. Для гэтага заранёў было набыта абсталяванне вытворчасці Нямеччыны. У год магутнасці лініі дазваляюць перапрацаваць звыш 1500 тон ільносемені. Дзякуючы гэтаму гаспадыням на стол трапіць каля пяцісот літраў якаснага ільномасла.

Раней фактычна на кожным падворку, кожная вясковая жанчына ўмела выціскаць ільняное і канаплянае семя. Дзякуючы прадпрымальніцтву лідчукоў добрая, забытая традыцыя мець сваё ўволю і якаснае наноў адраджаецца. Радуе і той факт, што гэта не кустаршчына, а паўнавартасная вытворчая лінія.

### Румлёўскі парк гібее

Памятаю Румлёва змалку, дзіўны, ўтульны куточак прыроды. Найчасцейшымі гасцямі тут былі рыбакі, і мы дзеці. Зараз гэтае ўтульнае месца непазнаеш. Развіццё жылога фонда Гародні адыйграла тут сваю адмоўную ролю.

Румлёва ня толькі паменшылася ў памерах. Зменшылася яно і ў наяўнасці гатункаў флоры і фаўны. Памятаю якое птушынае разнагалосcе было тут кожную вясну. Зараз, па звестках мясцовых арнітолагаў яно зменшылася амаль напалову. Знікае гонар Румлёва - дубы. Колькі іх спілена за апошнія гады з дазволу і браканьерскім шляхам палічыць цяжка. Ўсё шырэй і шырэй відаць месцы адпачынку “вясёлых кампаній”. Сродкі масавай інфармацыі стала б”юць трывогу аб занядбанні парку. Аднак перапыніць знішчэнне вельмі складана. Неабходны такі закон, які б адначасова рэгуляваў ўзвядзенне жылога фонду, рэгуляваў формы нашага бяспечнага адпачынку, калі прырода проста гвалтуецца. Спасылкі на сумленне - гэта толькі спроба зрабіць добрую міну пры дрэннай гульні.

### Ці зробіць рэканструкцыя чыгуначны вакзал Гародні па эўрапейскі мадэрновым?

Жнівень – гэта перыяд часу, калі гарадзенцы і госці горада змогуць скарыстацца выгодамі рэканструяванага чыгуначнага вакзала. Найперш плануецца ўвядзенне ў лік дзеючых прывакзальнай плошчы. Затым і ўсёй вакзальнай інфраструктуры. Раней непадалёк вакзала пачаў дзейнічаць шляхаправод, які вырашыў шмат набалелых транспартных пытанняў горада. Добра было б, каб ўсе гэтыя рэканструкцыі-ўдасканаленні вырашаліся ў кантэксце пытанняў малога памежнага руху. Аднак, вырашэнне надзённага пытання зацягваецца на неабазначаны перыяд.

Нагадаем, што актывісты БХД Гародні распачалі доўгатэрміновую акцыю з мэтай уздзейнічаць на ўладныя структуры дзеля пас-

карэння вырашэння гэтага надзённага пытання. Зараз збіраюцца подпісы. Да акцыі можа далучыцца кожны ахвочы., калі прыйдзе на адрас Будзёнага 48-А.

**Жакей ў Гародні перастае быць экзотыкай**

Пра гэта добра парупіліся ў адміністрацыі ААТ "Гарадзенскі мясакамбінат". Тут на безе адпачынку "Каробчыцы" можна ня толькі паназіраць за гонкамі прафесійных жакеяў, але і самаму стаць ўдзельнікам імклівай з ветрыкам прагулкі вярхом на скакуне.

Незабыты і дзеці. Іх забавам прапануюцца конныя верхавыя прагулкі на поні, ў брычках запражаных тройкай гарэзлівых скакуноў.

**Джазмэны на берагах Нёмана**

У сёмы раз горад Гародня стаў на некалькі дзён цэнтрам джазавай музыкі.

Паказаць сваё мастацтва з"ехаліся джазмэны-музыкі з Беларусі, Польшчы , Прыбалтыкі.

Мерапрыемства ладзілася пры падтрымцы Генеральнага консульства Польшчы ў Гародні. Яно па традыцыі прайшло ў мурах Новага Каралеўскага замку.

Аздобіла гэтую культурную дзею вядомая ў сусвеце джазавай музыкі польская спявачка.

**Гарадзенкі таньчаць лепей**

Выдатная навіна дайшла на прасцягі Гародні з Масквы.

Тут выступаючы на восьмай сусветнай алімпіадзе па сучасных танцах гарадзенскім танцоўшчыцам не было роўных.

У прыватнасці, Дзіна Мельнік – выхаванка гарадзенскай школы ўсходняга танца "Найла" перамагла сярод дзяцей ў дысцыпліне класічнага і фальклёрнага танца. Алена Парфенчык вахаванка гэтай жа школы стала віцэ-чэмпіёнкай свету па народнаму танцу. Сярод дуэтаў не было роўных Анжаліцы Шарэль і Кацярыне Талочка. Трэнер гарадзенскіх чэмпіёнак Таццяна Чарняўская стала пераможцай ў групе дарослых па індзійскаму танцу-кіно. Вікторыя гарадзенак стала першай ў гісторыі выступленняў беларусак на танцавальных алімпіядах Сусвету.

На чарговую выставу запрасіў музей гісторыі рэлігіі Гародні

Аўтарскія працы мастака-аматара Надзеі Пальчынскай пад назвай "Мой райскі сад" песцяць погляд дасціпнаму гледачу. Творца – інвалід І групы з дзяцінства. Яна знаходзіцца ў апекунстве маладзёжнага брацтва Свята-Уладзімірскай царквы, якое ініцыірывала ідэю выставы. Выстава, а гэта больш за 90 экспанатаў вышытых бісерам, сярод якіх выявы гатункаў тутэйшай і заморскай флоры і фауны, што для інваліда з'яўляецца верагодна далёкай марай, чым рэчаіснасцю. Працы паказваюць глыбіню светаўспрымання дзявоцкай душы, яе прагу да жыцця з верай ў будучыню.

Выстава будзе працаваць да канца верасня.

**Гарадзенскія прэзентацыі кнігі**

Офіс будынка па вуліцы Будзёнага 48-А ў Гародні стаў сапраўдным апірышчам для тых, хто жадае чытаць і выдаваць праўдзівую і змястоўную, сучасную беларускую літаратуру, дзе аўтар грунтуе свой твор на гістарычных падзях, што занатаваны дакументальнымі звесткамі. Так здарылася і ў гэты раз. свабодалюбіваму чытачу гарадзенскі аўтар Аркадзь Жукоўскі (Ліцьвін) прапанаваў захапіцца чытаннем сваёй гісторыка-дакументальнай аповесці "Галс". Чаму такі назоў? Можа таму, што літаратар прысвяціў сваё жыццё пабудове і эксплуатацыі караблёў. У самім жа творы дасціпнаму чытачу давядзецца даведацца з радкоў кнігі аб перыядзе грамадзка-палітычнага ладу жыцця на прасцягах нашае Бацькаўшчыны сярэдзіны васямнаццатага стагоддзя.

Віктар Сазонаў літаратурны творца зусім іншага пісьменніцкага цэху.

Ён ў сваіх допісах аддае перавагу пачутаму з першых вуснаў. А затым перадае першааповяды чытачам ў сваёй інтэрпрэтацыі. Гэты сатырычна-камедыйны жанр вельмі стасуецца да нашага часу. Восьі ў чарговай кнізе спадара Віктара " Сандалі Мітрапалітыка"вы знойдзеце шмат смешнага і павучальнага.

Дарэчы, абодва выданні надрукаваны на друкарскіх магутнасцях "Гарадзенская бібліятэка".

Трэцяе выданне-гэта кніга мастацтвазнаўцы Любові Зорынай мела больш шырокую прэзентацыю. Спадарыня Зорына прысвяціла сваё творчае натхненне дзеля захавання гістарычнай спадчыны Старой Гародні. Якую, нажаль, мы ўжо ніколі няўбачым, але зможам адчуць, гартаючы старонкі кнігі пад назовам " Мастацкае жалеза Гародні". Аўтарка сягае ў далёкую і недалёкую мінуўшчыну, як бы праводзячы нас праз двары і дворыкі, якія аздоблены кованымі жалезнымі ўпрыгожваннямі. Па словах самой Зорынай гэтае дзіва, што кранае сэрца мастацкім антуражам балконаў, кованых чарнёных дзвярных ручак, водапомпаў амаль ўжо знікла "дзякуючы" нашай няйдбайнасці. І адлюстраванне яго ў фатаздымках на старонках кнігі з аўтарскім тлумачальным тэкстам паглыбіць нашы веды пра тую Гародню , якую мы страцілі назаўсёды. Усяго ў кнізе змешчана амаль паўтысячы фотаілюстрацый, што зараз з"яўляюцца нам нямым дакорам і разам гонарам за продкаў. Гэтая гісторыка-асветніцкая кніга выдадзена гарадзенскім прыватным выданнем.

**Конныя памежнікі-гэта новае для Беларусі.**

З сярэдзіны чэрвеня распачаўся своеасаблівы эксперымент па выкарыстанню службовых коней пры дазоры дзяржаўнай мяжы.

Эксперымент праводзіцца на базе Гарадзенскай памежнай групы і Полацкага памежнага атрада.

Зараз скакуны размешчаны на тэрыторыі памежнай заставы імя Героя СССР Віктара Вусава. Гарадзенскія вартавыя памежжа плануюць выккарыстанне ня меней чатырох спецыяльна абучаных коней. Дзеянне эксперымента разлічана на два гады.

Тым няменей, нягледзячы на новаўвядзенні беларускіх памежнікаў дзяржаўную мяжу наноў спрабавалі парушыць нелегалы. У прыватнасці, некалькі чалавек зат-

рымаў нарад беларускіх памежнікаў на гарадзенскім ўчастку мяжы, а некалькіх затрымлівалі ўжо польскія ахоўнікі службы памежжа. Зараз па факту парушэння дзяржаўнай мяжы вядзецца следства. Нелегалы прыбылі да нас на самалёце з краін, дзе пануе радыкальны іслам.

**Кантрабанду самых сучасных і сакрэтных перадатчыкаў сувязі затрымалі ў Гародні**

Гарадзенскія мытнікі ізноў на кані. Яны затрымалі значную партыю кантрабады наяўнасць якой складалі апараты сакрэтнай сувязі. Дзейнасць аднаго такога апарата мае радыус каля 170-ці кіламетраў.

На думку дасведчаных, чыннікі сакрэтнай сувязі перавозіліся праз дзяржаўную мяжу з мэтай забеспячэння самай сучаснай апаратурай незаконных замежных сіндыкатаў, што спецыялізуюцца на перавозе ў краіны Эўразвязу груп нелегальных мігрантаў.

**Новыя прагулкі па воднай гладзі**

“Рачны трамвайчык” прагулачны кацер вытворчасці прадпрымальніка з вёскі Саволеўка Гарадзенскага раёна папоўніў пасажырскі порт Гародні. Выкарыстоўвацца новае судна будзе ў раёне Аўгустоўскага канала. На ім ёсць кухня, каюты для адпачынку. Жадаючыя могуць замовіць гэты плаўсродак ў арэнду.

Дарэчы, ўладальнікам цеплахода з”яўляецца “Гароднямелівадгас”. Аб”яўлены тэндэр на набыццё яшчэ некалькіх такіх прагулачных трамвайчыкаў.

**Дом з лілеямі**

Ў Гародні на вуліцы Сацыялістычная 44 спецыялісты знялі абарончае покрыва з вядомага ў горадзе дома “Як дом з лілеямі”. Зараз вядуцца даследчыя работы па вывучэнні аб”ёмаў рамонту. На думку спецыялістаў дому будзе патрэбны добры рамонт. Найперш неабходна ўмацаваць сцены і фундамент, каб будынак мог і надалей выкарыстоўвацца.

Нагадаем, што некалькі год таму “Дом з Лілеямі “ быў прададзены адной камерцыйнай структуры.

**Індывідуальным забудоўшчыкам трэба паспяшыць.**

Менавіта гэта тычыцца той групы індывідуальных забудоўшчыкаў, што суадносяцца да ільготнай катэгорыі забудоўшчыкаў.

Гарадскія ўлады маюць намер выставіць такія ўчасткі выдзеленыя пад ільготную забудову і пустуюць на аўкцыён.

**Наша радыска таннейшая**

З чэрвеня для тых гарадзенцаў, што любяць ласавацца айчыннай вітаміннай прадукцыяй добрая навіна. Мясцовы цяплічны камбінат распачаў рознічную прадажу радыскі. На думку спецыялістаў наша гарадзенская радыска і больш сакавітая і больш вітамінная, а галоўнае, яна значна таннейшая за прывазную.

**Міліцэйскія пакосы і нятолькі**

Плошчу, памерам крыху меней двух гектараў засеяную дзікім макам знайшлі падчас рэйдавых мерапрыемстваў міліцыянты ў Гарадзенскім раёне.

Пасадкі, якія маглі быць выкарыстаны наркагандлярамі для вытворчасці наркотыкаў знішчаны нарадам міліцыі. Мерапрыемствы па выяўленню незаконных пасадак маку і канаплі ў Прынямонні працягваюцца.

Ня менш надзённа на Гарадзеншчыне і праблема з кватэрнымі крадзяжамі.

Гэткія злачынствы пашыраюцца менавіта летам, калі наступае час масавага адпачынку. Каб зменшыць рост такіх правапарушэнняў міліцыянты рэкамендуюць ад’язджаючым на працяглы перыяд з дому ставіць сваю нерухомасць пад сігналізацыю.

Трагічна закончылася прагулка на аўто з нагоды завяршэння навучальнага года груп студэнтаў Гарадзенскага Дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. На ўчастку дарогі Гародня–Ласосна кіроўца несправіўся з кіраваннем ў выніку ДТЗ загінула маладая дзяўчына, яшчэ некалькі ўдзельнікаў аўтапрагулкі былі змешчаны ў рэанімацыю. Вопыт маладога вадзіцеля, які кіраваў легкавіком складаў ўсяго два месяцы.

**МНС дапамагае і пад зямлёй і на зямлі**

У Шчучынскім раёне службы аператыўнага рэагавання выратавалі пенсіянерку, якая ўпала ў калодзеж сямімятровай глыбіні.

Для выратавання пацярпелай выкарыстоўваліся лесвіца “Тарзанка” і вяроўка.

На Мастоўшчыне служба МНС правяла дэмеркурызацыю стапяцідзесяці грамаў іртуці, якая была выяўлена непадалёк вёскі Вялікія Сцяпанішкі.

## Справы канфесійныя

### У Гародні дагэтуль невызначаны прысуд па справе святара Мікалая Гайдука

Святар непажадаў падпарадкоўвацца невядомым тэлефонным званкам з прапановай прыйсці ў міліцэйскі пастарунак з мэтай дэкталаскапіі пальцаў рук. Міліцыянты склалі на айца Мікалая адміністратыўны пратакол, каб праз суд дамагчыся здзяйснення гэтага для святарскага гонару ганебнага ўчынку, як зняцце адбіткаў пальцаў.

Дарэчы, Праваслаўная царква даўно выступае супраць такіх захадаў ўладных, аднак, як стала вядома на судзе праваслаўныя гэрархі не атрымалі якога кольвечы адказу. Згадаем так, для суда гэтае судовае пасяджэнне было непажаданым. Але справа суддзяў ў судовым парадку выконваць закон і выносіць справядлівы вердыкт. У выпадку "святарскай справы і міліцыянтаў" суддзя знайшла недакладнасці ў складанні міліцыянтамі пратаколу і адправіла гэты дакумент на дапрацоўку. Пачакаем далейшага развіцця падзей.



Тым часам у праваслаўных закончыўся Пятроўскі пост. Зараз вернікі рыхтуюцца да ўшанавання аднаго з самых важкіх і слаўных святаў года-гэта свята Вялікага Спаса.

Чынны ўдзел у дзеях праваслаўнай царквы на Гарадзеншчыне бяруць і чальцы БХД. Разам з вернымі яны прайшлі Хрэсным ходам ад Пакроўскага сабора Гародні да царквы Ўсіх Беларускіх святых, што збудавана ў лесапаркавай зоне Румлёва на ахвяраванні вернікаў, дабраахвотнікаў- мецэнатаў.

### Паркавую зону ля Каложы рэстаўрыруюць

Нарэшце зменіцца знешні выгляд пляцоўкі ў Каложскім парку ля самой святыні. Па планах ААА "Будоўля" мяркуецца пабудаваць новую лесвіцу пры спуску да ракі, прыдаць новы від мясцовасці вакол гістарычнага помніка "Пагоня на Грунвальд". На сённешні момант "Пагоня" была адсунута з пагорка ля царквы і змешчана ў цэнтры пляцоўкі. З двух бакоў ад помніка размесцяць драўляныя лаўкі для адпачынку, каб было зручней дайсці да яго адновяць старую і пакладуць новую брукоўку ад усходняй сцяны Каложы. Новай і больш прыдатнай для хады стане лесвіца. Ступені якой выкананы з новых натуральных матэрыялаў. На працягу ўсёй даўжыні сходаў будуць ўсталяваны тры гранітныя лавы. Канчатковы выгляд лесвіцы і пляцоўкі з "Пагоняй на Грунвальд" жыхары Гародні пабачаць на прыканцы ліпеня.

### Праваслаўныя адсвяткавалі дзень памяці святых Пятра і Фяўронні

Кожны год у Свята-Ражства Багародзічным манастыры Гародні праходзяць набажэнствы ў гонар святых Пятра і Феўроніі, што з'яўляюцца ахоўнікам сям'і і сямейнага дабрабыту. На працягу мінулых гадоў гэтае свята арганізоўвалася пры падтрымцы музея гісторыі рэлігіі. Ва ўнутраным дворыку музея адбывалася цалкам ўся урачыстасць. Гучала музыка ў выкананні пеўчых калектываў горада. Гэтым разам ўсё абмежавалася малітоўнай імшой, што прайшла ў сценах жаночага манастыра Гародні.

### Пры падтрымцы Рыма-каталіцкай дыяцэзіі Гародні ў кінатэатры " Чырвоная зорка" прайшлі дні хрысціянскага кіно

Чарговы раз гарадзенскі кінатэатр "Чырвоная зорка" стаў месцам духоўнасці. Менавіта ідэя духоўнасці і хрысціянскай міласэрнасці была данесена гледачам праз імглівы бег кінастужкі. Фільмы-лаўрэаты штогадовай прэміі "Magnificat" знаёмілі абласную публіку з асветніцкай, дабрачыннай, культурнай дзейнасцю хрысціянскай царквы ў цяперашніх гістарычных рэаліях. Восем кінастужак, якія паказваліся на працягу двух дзён былі featured рознай тэматыкі і школы вытворчасці фільмаў. Заснавальнікі праекту гарадзенская кінастудыя "Magnificat" прадставілі кінастужкі з Беларусі, Польшчы, Расеі, Украіны і ЗША. Як сведчанне, кожны з праглядаў быў па сапраўднаму аншлагавым. Прэзентаваў фестываль фільм кінамайстроў Гарадзенскай Рыма-каталіцкай дыяцэзіі " Промні надзеі".

# Адкуль пачаўся наш горад



Гародня – горад у якім гарманічна пераплецены даўніна і сучаснасць. Ён адзін з найстаражытных гарадоў Беларусі, якому лёсам было наканавана стаць цэнтрам найважнейшых падзей у гісторыі нашай Бацькаўшчыны.

Мала дзе яшчэ знойдзеца столькі адданых свайму гораду выбітных гісторыкаў і краязнаўцаў як у Гародні. Сённяшні мой суразмоўца адзін з такіх апантаных гісторыяй асобаў, доктар гістарычных навук Алесь Краўцэвіч.

- На папярэдніх нашых сустрэчах, мы ужо размаўлялі з Вамі пра Гародню і Вялікае Княства Літоўскае і пра хрысціянскія храмы нашага горада, а цяпер хацелая б даведацца больш пра гісторыю горада. Па першае як правільна казаць, Гродна ці усёж такі Гародня?

Сапраўдная мясцовая назва горада - Горадня - пайшла ад яшчэ больш старажытнага летапіснага: Горадзен (Городно). Афіцыйная сённяшняя назва "Гродна" (парасейску "Гродно") паходзіць ад слова "Grodno" - польскага варыянту беларускай назвы, які пашырыўся ў 17 - 18 стст., а потым у канцы 18-га - пачатку 19-га ст. быў пераняты расійскай акупацыйнай адміністрацыяй. Тое ж адбылося з Наваградкам (Nowogrodek), Менскам (Minsk) і г.д.

Аднак сярод сённяшняй беларускамоўнай меньшасці прынята казаць "Гародня" і адбылося так з двух лёгкіх рук класікаў: літаратурнага - Караткевіча ("Хрыстос прызямліўся ў Гародні") і бардаўскага - Шалкевіча ("Ў Гародні дождж..."). Напэўна, калі аднаўляючы гістарычную справядлівасць, незалежная беларуская дзяржава пачне вяртаць сваім месцам іх гістарычныя імёны, то для нашага горада будзе прынята якраз апошняе, на той падставе, што ім карыстаюцца абарыгены.

- Калі ў першыню была ўзгадана Гародня?

Першая ўзгадка пра Гародню ў летапісе адносіцца да 1128 г., пры гэтым гаворка ідзе не аб самым горадзе, а пра князя "Усеваладка з Гародна", які па загаду кіеўскага князя вывеў дружыну ваяваць супраць Полацка. Праўда, яшчэ раней пад 1116 г. летапісец узгадвае шлюб таго ж Усеваладкі з дачкой Уладзіміра Манамаха Агаф'ей, але без указання пра яго гарадзенскае паходжанне. Таму афіцыйнай датай заснавання горада прыняты 1128 г. Спрабавалі ўмяшацца археолагі з датыроўкай першага паселішча на канец 10 ст., аднак дакладнай даты яны са сваёй навукай назваць не могуць. Таму адлік гісторыі горада афіцыйна пачынаюць з 1128 г., а не на паўтары сотні гадоў раней.

Шлюб гарадзенскага князя з дачкой самага магутнага ўладара Русі, несумненна паказвае на тое, што Гарадзенскае княства і наш горад гралі не апошнюю ролю на палітычнай арэне Русі. Праўда, амаль усе летапісныя звесткі аднагалосна сведчаць пра трывалую палітычную залежнасць Гародні ад Кіева. Па аднаму загаду адтуль гарадзенская дружына адпраўлялася ў далёкія, небяспечныя і зусім непатрэбныя гарадзенцам паходы, вось як згаданая выправа на Полацак. Сыны Усеваладкі (у яго было тры сына і дзве дачкі) Барыс і Глеб у 1141 г. зноў жа ў інтарэсах кіеўскага князя Усевалада ідуць з ім на Галіч. Той Усевалад вырашае з кім браць шлюб дочкам гарадзенскага князя - адну ганарова выдае за чарнігаўскага князя Уладзіміра Давыдавіча, другую не менш ганарова - за тураўскага Юры Яраслвіча. Малодшы сын Усеваладкі Мсціслаў таксама вымушаны ўдзельнічаць у далёкіх міжусобных звадах на поўдні Русі, а ягоны брат Глеб зноў жа па закліку з Кіева ў 1167 г. пайшоў нават супраць полаўцаў; Мсціслаў Усеваладкавіч ў 1184 г. таксама вадзіў дружыну ў далёкі стэп.

- Якія стагоддзі ў гісторыі горада застаюцца таямніцай?

Знакамітая летапісная фраза ад 1183 г.: "Таго ж лета Горадзен пагарэў увесь і цэрквы каменныя ад бліскання маланак і шыбення грому" аказалася першай і апошняй згадкай пра сам горад у 12 ст. Потым да сярэдзіны 13 ст. пра Гародню летапісы маўчаць і зразумела чаму. Уласны гарадзенскі летапіс не захаваўся, а кіеўскія летапісцы успаміналі пра далёкую паўночную Гародню толькі калі яна была нейк звязана з кіеўскімі справамі і інтарэсамі.

Цікава, што аж да 30-х гадоў 20 ст. гісторыкі не маглі дамовіцца, дзе знаходзіўся той летапісны Горадзен 12 ст. Адныя са спецыялістаў адназначна паказвалі на нёманскую Гародню. Другія казалі,

што яна ляжыць занадта далёка ад асноўных цэнтраў Кіеўскай Русі і прапаноўвалі лічыць летапісным Гараднем мястэчка Гародна ці Гарадная у Палессі на прававбярэжжы Прыпяці. Буйнейшы польскі гісторык-медыевіст Генрык Лаўмяньскі ў пачатку 30-х гадоў выказаў версію, што наш горад узнік як літоўская крэпасць для аховы нёманскай пераправы, праз якую літоўцы хадзілі ў напады на Польшчу і Русь. Літоўскія гісторыкі адразу падхапілі гэтую думку і зараз уся Літва лічыць Гародню сваім гістарычным Гардзінасам.

Некаторыя польскія гісторыкі хацелі бачыць горад адвечна польскім Гроднэм. Сталася так, што аднаму з іх - дырэктару гарадзенскага музея Юзафу Ядкоўскаму было наканавана ўласнаручна абвергнуць прэтэнзіі як паўночных так і заходніх нашых суседзяў. Распачаўшы ў канцы 1931 г. археалагічныя раскопкі на Старым замку, Ядкоўскі ў літаральным сэнсе адкапаў такія факты, якія “закапалі” як літоўскую так і польскую версіі паходжання горада, а заадно адмялі ўсе сумненні ў тоеснасці летапіснага Горадня з нашай Гародняй.

- Што ж гэта былі за факты, ці артэфакты, як кажуць археолагі?

Ядкоўскі адкрыў дзве мураваныя пабудовы 12 ст.: руіны палаца гарадзенскіх князёў і царкву (былі яшчэ рэшткі абаронча сцяны). Адкапаны храм быў менавіта праваслаўнай царквой, а не каталіцкім касцёлам. Архітэктурная кампазіцыя, размяшчэнне і канструкцыя алтарнай часткі, будаўнічая тэхніка і матэрыялы - усё адназначна паказвала на прыналежнасць да архітэктурнай традыцыі Кіеўскай Русі. Адсюль вынікала, што гэты старэйшы гарадзенскі хрысціянскі храм на дзядзінцы - ўмацаваным цэнтры горада, дзе жыў князь, збудаваны ўсходнімі славянамі. А як кажа сёння вядомы прадстаўнік гарадзенскай беларускамоўнай меньшасці Валодзя Кіслы: ”Акрамя беларусаў другіх усходніх славянаў тут не было!”

Пасля адкрыццяў Ядкоўскага адразу па-іншаму пачалі глядзець на Барысаглебскую Каложскую царкву, якую да гэтага многія ўспрымалі як нейкую праваслаўную выпадковасць, невядома калі ўзнікшую на ўскраіне горада. Новаадкрыты храм на Старым замку быў падобны да Каложы як сёстры-блізняты між сабой. Праз паўсотні гадоў у 1980 г. археолаг Ігар Чарняўскі (вядомы прадстаўнік менскай беларускамоўнай меншасці) падчас першай у сваім жыцці самастойнай экспедыцыі адкапаў на падворку кляштара базылянак яшчэ адзін праваслаўны храм 12 ст. - царкву Прачыстай Багародзіцы. Даўняе летапіснае сведчанне ад 1183 г. пра існаванне некалькіх мураваных цэркваў у Гародні аказалася поўнасцю доказаным! У 1989 г. аўтару гэтых радкоў пашчасціла натрапіць на сляды яшчэ аднаго храма 12 ст. - на Новым замку - царквы Уваскрасення Гасподня.




Адкрыцці Ядкоўскага адразу сталі вядомыя навуковаму свету. Нажаль, памылковае меркаванне Генрыка Лаўмяньскага пра Гародню як літоўскую крэпасць увайшло без каментарыяў у паўторнае выданне яго працы ў 1983 г. І вось зусім нядаўна у 1998 г. адна пані-гісторык з Беластоку ў кнізе пра Гародню зноў яго паўтарыла. Як аказалася, яна ня ведае, што польскія гісторыкі (як, напрыклад, вядомы Генрык Пашкевіч) яшчэ з 30-х гадоў прынялі інфармацыю пра раскопкі Ядкоўскага. Не чула і не чытала калега з Беластоку пра пасляваенныя экспедыцыі археолагаў М.М.Вароніна, П.А.Рапапорта, А.А.Трусава, М.А.Ткачова, якія падцвердзілі і дапоўнілі адкрыцці Ядкоўскага.

Археолагі парупіліся таксама і над загадкай паходжання нашага горада. Яны адкапалі матэрыялы, якія сведчаць, што першае паселішча на мысе пры ўпадзенні Гараднічанкі ў Нёман (Стары замак) узнікла ў канцы 10 ст. Заснавалі яго усходнія славяне, якія прыйшлі сюды ў глыб балцкіх земляў з поўдня з зямлі дрыгавічоў і валынянаў. Па ўсёй верагоднасці, першыя жыхары Гародні ўцяклі ад хрышчэння, якое гвалтоўна ўводзіў на Русі ў 988 г. кіеўскі князь Уладзімір. Хрысціянства прыйшло сюды толькі праз сто гадоў.

Першыя і асноўныя жыхары горада - усходнія славяне, а разам з імі выхадцы з суседняй Мазовіі, а таксама з мясцовай балцкай ваколіцы заклалі падставы для росквіту горада ў 12 ст., а іх нашчадкі прынялі чынны ўдзел у пабудове новай магутнай дзяржавы - Вялікага Княства Літоўскага.

Рэальныя польскія ўплывы ў горадзе пачаліся з утварэннем Рэчы Паспалітай. Але адбылося тое значна пазней праз паўтысячы гадоў і гэта ўжо другая гісторыя.

**Размаўляла Ларыса Ішчанка**

# Павел Севярынец «Паленне» Працяг...



**Прайшла праведніца.**

Добрая ў нас правадніца. Кабета дамавітая, ёмістая, тыповая тутэйшая цётка. Вось мімаходзь падаткнула камусьці ў суседнім купэ прасьціну, белы падол з васількамі. Маўклíва, крыху сапучы, зьбірала квіткі й пасьцельныя грошы ў таўстаскурую кніжку, руплíва пасьлíньвала пальцы. Праходзіць туды-сюды гэтак жа моўчкі, пасопваючы, як пячорны гном: рукі жменямі пры сабе. Зараз як забярэцца ў сваё купэ, а там па-добраму цесна, утульна. Каморка натопленая, у цёплых коўдрах, з клятчастым пледам, падушкай, зь няхітрымі скарбамі: печывам дамашняе выпечкі, бляшанкай бразыльскае кавы й гарэшкамі ў залацістых пакеціках. І прахалодныя, чысты сьнег, горы бялізны. І васільковыя ўзоры.

Вось табе жыцьцё. Чыгунка, абжыты вагон з падстукваньнем, пастаянна чужыя госьці — і каб усім было цёпла й цёмна спаць, каб усе былі задаволеныя. І нават прасьціначку падаткнуць.Я ўвесь час чакаў, што яна нешта скажа. У гэтае цётачкі мусіў быць цудоўны народны акцэнт — але ад яе, з пачатку вагона, было чуваць толькі дзінькаваньне шкла ў мэталёвай апраўе, стрыманае шарканьне ды ляскаваньне засаўкі. Такія харошыя, кухонныя гукі пад спакойны пярэгрук колаў. Зрэшты, падумаў я, больш нічога ня трэба. Хацелася толькі ямчэй уладкавацца за сталом — так чакаеш, што зараз чаго-небудзь прынясуць. На хвілінку здалося: я дома.Цягнік стаў. Так, на чым мы спыніліся.... Наўрад ці можна было назваць домам той інтэрнацкі пакой з тумбачкай у ізгалоўі, дзе я пасяліўся, пачаўшы працаваць. Усяго й дамашняга тут было — кнігі ў вокладках са шпалераў. Некалькі кнігаў з бацькоўскае кватэры; маці загарнула іх мне, як рабіла заўсёды. Я ўзяў з сабой супраціўнікаў самых грозных, ня раз перачытваных, на чыіх старонках стракацела ад знакаў увагі. І закладваў у іх самае каштоўнае, праезныя й грошы.

Яны й цяпер са мной, дамашнія кнігі. Гэта іх рабрыны ў чорнай торбе я пру зараз пяткамі. Не, даставаць ня будзем. Хай пачакаюць.Тыя часы ў мяне ўспамінаць не прынята. Было нешта такое: паўпадвальная рэдакцыя; жалю варты, на паўтары тыдні, заробак; крышкі ў кішэні, ненадрукаваны артыкул у газэце за панядзелак (газэта камячылася, і ў вурну), сталоўка, супчык зь відам на палудзенны рэдзенькі сквэр... Толькі ў бібліятэцы я браў сабе ўдосталь і першага, і другога, і трэцяга. Было хвіліннае сьвята, калі ўдавалася падабраць у гарэцкіх радках што-небудзь гэткае, з хрумстам. Ці, скажам, знайсьці імклівае, у некалькі словаў, закляцьце супраць Булгакава. Але ўсё гэта месцамі, даволі бязладна ды выпадкова. Я паліў шмат таннае дрэні, я выдыхаўся: нэрвы, мой братка, нэрвы. Так хацелася чаго-небудзь разумнага, добрага. Вечнага. І я даставаў кнігі ва ўзорыстыя кветачкі, якія цягаў з сабою паўсюль, і пагружаўся ў чытаньне. Перачытваў з ныючай насалодай, з чорным па белым зайздрасьцю... Пасьля заставалася толькі маўчаць. Вялікае расейскае, яно было сумна й далёка, недасягальна далёка...

Мне зрабілася страшна. Не дастаю да дна. Быў гістэрычны жах не пакінуць нічога на гэтым сьвеце. Страшна выйсьці на чарговую дэманстрацыю — там хапалі, зьбівалі, здымалі на камэры, і з кожнай мянтоўскай машынай каля інтэрнату я спуджана, паўзь сьценачку, перабіраў, дзе ж апошні раз засьвяціўся. Між тым ня выйсьці было яшчэ страшней: што б сказалі тыя нямногія, хто мяне ведаў...Вось так. Вось чаму, як толькі зьявілася магчымасьць, я рвануўся з усіх сваіх жылаў; напазычаўся, чырванеючы, гледзячы ў падлогу; вымаліў у бацькоў ці не астатнія капейкі... І выбраўся. Зьехаў. Я еду так, як і зараз, бязь лішняе шмоткі; адзінае, што было ў мяне — вось гэтыя кнігі. Па-мойму, я нават рыдаў у тамбуры. Але так было трэба. Тады я быў правы, нікуды не падзенесься. Я еду ў Вільню.

Вільня, Вільня мая, чую цябе нават у гэтай цёмнай ночы. Так праходзіш дома цьмянымі калідорамі, ведаючы, дзе падасца з рыпам падлога, адным чуцьцём кранаеш знаёмыя выступы й паверхні, адным дотыкам — лёгкім, як пылок тынку, што застаецца на пальцах зь віленскіх сьценаў. Тут будынкі растуць зь зямлі разам з дрэвамі; тут, як крыніца, б'е ў вочы вышчарбленая цэгла; тут добра пячатаць крокі па бруку і разьбіраць старажытныя друкі.

У Вільні вера. Я назаўжды буду ўдзячны тым вечарам, якія праседжваў ва ўнушальнае цішыні, у сьвятле настольнае лямпы: падымаесься з-за стала пасьля колькіх гадзінаў, і ва ўсім целе —зацёклая ўласная важкасьць, цяжар беларушчыны й зробленай працы. Так прыемна потым спусьціцца на вуліцу, прайсьціся дварамі. Тут зьбіраесься з духам — такія храмы, такія кніжныя плошчы, рэчы цудовыя, запаветныя. Нідзе больш ня знойдзеш сапраўднай, дрымучае сілы такога роду.І ўсё ж такі штосьці яшчэ. Усё-ткі іншага разу нецярпліва цярушыш пальцамі ў шчэпці, быццам самае маласьці не стае, самае солі, быццам вось толькі пераэжагнацца... Таму што кнігі, прывезеныя з дому, кнігі ў шпалерах, зашмальцаваных да глянцу, усё роўна хавалі нешта значнейшае. У вечных радках, ужо стомленых ад паўтарэньня, дзіўным і сумным чынам двaілася, траілася: машынны шум з тралейбусным гудам праспэкту, пах ліпнёвае квецені на паступленьне ва ўнівэрсытэт, начныя дахі ды страхі, юныя перажываньні, і, глыбей, руіны дашкольнага веку... Увесь пакінуты горад, у якім я пражыў жыцьцё.

Цягнік набліжаўся да Менску — неўпрыкмет, хадою гадзіньніка, зь нястомным падстукваньнем. Навакольле сьвяжэла. Я прыглядзеўся на хвіліну — сапраўды, за вакном азначалася ранішняе сьвячэньне, і пачынала нязёмка шчыпаць бяссонныя вочы.Што ж, наперадзе Менск, пагромлены ды халодны, куды страшнавата вярнуцца. Насамрэч, я ня быў там даўно, настолькі даўно, што ён мне ўжо сьніцца пачаў, і ўсё ў снах дрымотных, трывожных, калі бяжыш, не дабягаеш, калі шукаеш увесь час чагосьці — чаго, ты знаеш, знайсьці немагчыма. Горад шэрага каменю й тонкіх даждж жоў. Такому нельга даверыць свайго

жыцьця, ды й сваёй краіны. Ён пужаў і прыцягваў мяне, як бездань.Старонкі ўспаміналіся ў незьлічоных перачытаньнях, на ўсе галасы, прасьвечвала, калыхалася, усплывала тое, што часам нельга было й патлумачыць, і безыменныя ўздрыгваньні думкі згадвалі нейкую згубу. На жаль, такое не перакладаецца; такое толькі цытуюць. Урыўкі з жыцьця на памяць. Маё Выбранае. Я сядзеў над ім гадзінамі, з пачуцьцём шчымлівым і ашчадным, зь якім народы памінаюць Сярэднявечча.

Гэта былі тамы Сярэднявечча, майго асабістага. Здавалася, мне на ўвесь лёс ня дадзена нічога вышэйшага. Расейская клясыка стала праклаяцьцем. Я губляўся, як гэта так, я ня ведаў, што й рабіць.І вось тут пачынаецца тое, чаго ніхто не чакаў.Ладна, я падняўся. Пайшлі, папалім.Я выйшаў ў тамбур, прыстукнуўшы дзьвярыма. Аглушальна ляскала буфэрнае жалезьзе. Холадна. Сьцюжа за шклом здавалася проста нясьцерпнай. Зямля, скрозь голая, прасіла, як міласьціны, хаця б сьнегу: так было б цяплей. Страшна падумаць, што зараз робіцца ў горадзе. Выстуджаныя пад'езды, дамы захутваюцца, жалеза пячэ да крыві. Самае тое паліць кастры. І грэцца.

Плечы перасмыкнула. Насамрэч, куды там без агеньчыку. Пакартаваў у пальцах нерасьпячатаны пачак, люстраныя грані. У горле перасохла ад жаданьня й адчуваньня, што зараз зграшу-такі. Ах, я расцыраваў яго, зь пякучым хрумстам, як дастаў, адным дотыкам, цыгарэтку... Аж кончык языка з парком дыханьня млее... гэта ж трэба, два месяцы грыз асадкі.

Я стаяў і нарэшце паліў. Канчар цыгарэты ірдзеўся, успыхваў скрозь порысты попел. Такая радасьць. Калі прыглядзецца, жар перамяняўся цёмным і сьветлым, і нетаропка, паціху падбіраўся да вуснаў. Зь нязвычкі кружылася галава, было трохі блага. Я прыпамінаў, як танцоўна мнецца ў зубах цыгарэта, і дым хімічыць нешта ў мазгох.

Дык вось, я рашуча стрэліў попелам.

Калі пала ўлада, мне стала вядома толькі назаўтра з навінаў. Тэлевізар быў у кавярні, на першым паверсе дома, дзе я кватэраваў, трэба толькі сысьці па прыступках. Я заўсёды займаў там выгодны столік у кутку, ля вакна: там можна зусім пахэмінгуэеўску заседжвацца за кавай... Цудоўныя хвіліны — я дыхнуў, выпусьціў пару. Дым разгортваўся прывідным пагрозным валам. Тысячагаловыя дэманстрацыі, заводзкія страйкі, дзесьці разьбіты вайсковы грузавік — усё, што было да гэтага, набывала цяпер свой ракавы сэнс. Падумаць толькі, усё жыццё лічыў — о, як далёка нам яшчэ... Атрымай. Крах поўны. Рванула так, што ашмёткі яшчэ доўга луналі. Па ўсёй Беларусі зьбіралі нейкі грандыёзны Дэмакратычны кангрэс, апячатвалі архівы і ўламваліся ў кватэры рэжыму з пагромамі, вобыскамі й кайданкамі. А ўва мне ўсё гайдалася й ляскала, што твой тамбур: так кудысьці туды хацелася з грукатам дацца, тараніць на стыку й стрэсьціся ад сутыкненьня.- Супакойся. Удыхні глыбей. Да самага дна, каб лёгкія тлелі...Тэлевізійныя кадры глядзеліся з халоднай грэблівасьцю. Вулічны патруль, хлопец-аўтаматчык на пару зь міліцыянтам, пацепвалі на вятры плячыма — яны там таксама мёрзьлі. Пройма высаджанай вітрыны, з паваленым манэкенам сярод асколкаў бітага шкла. Купка падлеткаў, якія зьбіралі страляныя гільзы; між іх, у пыле, недаўменна гулялі галубы.Я не паехаў туды. Навошта. У многіх маіх сяброў, пэўна аж заблішчэла ў вачох, але мне ад гэтай краіны больш не было патрэбна нічога. Усё гэта мы ўжо бачылі. Пустое.

Дымныя цені на сьценах тамбура плыўна разгортваліся, разьвінаючы штосьці з прывідный тайнаў, таялі й павольна зьнікалі.Паказвалі часовага прэм'ера: ён гаварыў, наколькі я чуў скрозь пераклад, пра падатковыя ільготы, паток грузавога транзыту й замежныя крэдыты. Слушна казаў, але раздражняла, рэзала вока, што ён цярэбіць у пальцах запалкавы карабок — на лякаваным міністэрскім стале, з прэс-пап'е, залочанымі асадкамі й спэцсувязьзю. Быццам стараецца схаваць, як дрыжаць рукі. Хацелася, каб ён трымаўся больш упэўнена, а замест гэтага мільгалі дурацкія капеечыя запалкі... Яны аніяк ня выйдуць з галавы.Між тым штодня зьбіраліся мітынгі — у асноўным інтэлігенцыя, студэнты; ня так шмат, але сьцягі луналі й крык стаяў даволі рашучы. Я нават пабачыў сяго-таго з нашых. Гэта было ўжо цяплей, цяплей.Агеньчык успыхваў. Трэба мацней зацягвацца, тады ён ярчэйшы, патрэсквае, зырыцца, і сапраўды робіцца трошкі цяплей. Паркі дым клубіўся й затуманьваў шкло. Зараз заінее.Калі Расея адключыла тэлеканалы, стала не па сабе. Справы сур'ёзныя. На наступны дзень пачалі перакрываць газ. Такія трубы не заблякуеш адразу — выбухне ад страшэннага ціску. Аднойчы я чуў, як яны шыпяць, перакрываныя. Так здыхаюць страшыдлы. Уявіць сабе, як усе разам, на тысячы кілямэтраў, пагружаецца ў цемру, гасьне, як у сьцюдзёную позьнюю восень па ўсёй краіне астываюць кацельныя, пліты й батарэі ў кватэрах — тут было ад чаго здрыгануцца.Мне ніколі ў жыцьці не працавалася гэтак горача, як у тыя дні. У нейкім палаючым натхненьні я парадчыў і перачытваў усе віленскія публікацыі, рукапісы й падшыўкі. Быццам рыхтаваўся да старту. Засякаў час і ледзь пасьпяваў дачытаць, дапісаць, даесьці —зьбягаў у кавярню, да тэлевізару.Нарэшце, сёньня, — я закашляўся ад дыму, не прадыхнуць, — зрэшты, гэта ўжо ўчора, бо цяпер у мяне на гадзіньніку заўтра... Карацей, у вечаровых навінах камэнтатарка захлыналася вусьцішшу, яе голас дрыжэў. Тое, што тварылася на экране, кінула мяне ў жар.

Яркі жар, чалавечы роў і барабанны рокат за кадрам. Гулка гахаюць стрэлы — здаецца, у паветра. І кнігі. На плошчы паляць расейскія кнігі. Рвуць і мечуць у велізарны касьцёр. Тэатар опэры й балета. Натоўп народу. У людзях злосна, барвова ўспыхваюць водсьветы. Усё трашчыць і крычыць у барабаннай жарсьці — і рукі, растапыраныя чырвоныя рукі, што прагна цягнуцца да вагню...

Чхорт, я ледзь не апаліў сабе пальцаў. Недапалак ужо датляваў, наапошак шызавата, злавесна курыўся. Чакай, яшчэ пару дымоў. Лёгкія падымаліся томна, у прадчуваньні. Здавалася, я вось-вось успомню, уразумею. Дзе ж тут ісьціна, дзеля чаго, дзеля каго гэта ўсё робіцца...Зайшла праваднiца. Пачала, прысеўшы, нешта корпацца ў куце й міжволі аправіла форменную спадніцу. Такім мілым, прывабным жаночым рухам, харошая мая, ты б знала.Іскарка, мігні мне. Усё, гатова. Недапалак я вазьму з сабой. Такія рэчы трэба захоўваць, як гільзы.Мы ўжо пад'язджалі. Паўночы ад Вільні да Менску, так каротка. Не пасьпяваеш усяго перадумаць. Застукалі дзьверы. Пачыналі хадзіць у прыбіральню — потым ужо будзе позна. За вакном мільгалі прыгарады.Колы адстуквалі прэч слупы, склады й штабэлі шпалаў, прыглушана шугалі пад цені мастоў. Вочы адмахвалі, быццам хутка чыталі радкі — зьлева направа, зьлева направа. Наперадзе, у сьвітаньні, падымаліся капітоліі горада й калясальныя коміны. Мой Менск. Горад, якому так холадна безь мяне. Горад, дзе нашы сьцягі па-над дахамі, дзе навіны ўжо колькі тыдняў толькі на мітынгах. Дзе ўвечары людзі ідуць да Опэрнай плошчы — пагрэцца ля аграмадных вогнішчаў, у якіх гараць кнігі.

## Польскія суды належна пакаралі расейскіх ціфозі

Нават неспрактыкаваны футбольны заўзятар гледзячы на расейскі дэсант балельшчыкаў што прыбыў ў Польшчу глядзець гульні чэмпіянату Эўропы з удзелам расейскай зборнай мог упэўнена канстатаваць, што без боек тут неабыдзецца. Вельмі ўжо агрэсіўныя настроі былі ў прыезжых заўзятараў.

І агрэсія вылілася адразу. Амаль напаўтрыбуны расіяне распрасцерлі недвухсэнсовы банэр з выявамі Мініна і Пажарскага. Напамін пра “смутныя часы”, што гэта азначае ў нашыя дні?

Бойка польскіх і расейскіх ціфозі была жорсткай і зацятай. Некалькі чалавек трапілі ў рэанімацыю. Затрымана паліцыяй было больш двухсот чалавек з абодвух бакоў.

Днямі прайшлі суды. Расейскія баевікі-зачыншчыкі атрымалі два і тры месяцы зняволеня. А вось ва Украіне абыходзіцца без хуліганства балельшчыкаў. Ўрад гэтае краіны падтрымлівае сем’і, што бяруць замежных балельшчыкаў-турыстаў нанач.

Бойкі, ці неадзінае, што вылучыла нашых ўсходніх суседзяў. Яны, як і мы сталі толькі наглядальнікамі феерычнай гульні гішпанцаў, якія даказалі свой статус кво.

## Гародня і амэрыканскі футбол

Ужо на працягу года Аляксей Сярабракоў збірае хлопцаў у мэтах стварэнне ў горадзе каманды для гульні ў заакіянскі спорт. Тройчы на тыдзень яны трэніруюцца на стадыёне Гродзенскага дзяржаўнага аграрнага універсітэту. На сённешні момант ў спісе спадара Аляксея 40 прозвішчаў, але рэгулярна пасяшчаюць трэніроўкі каля 20 чалавек. Для гульцоў і іх трэнера спадара Сярабракова галоўнай задачай на дадзены момант з’яўляецца перамога ў рэспубліканскіх спаборніцтвах па Флаг-футболу. Флаг-футбол – гэта бескантактная версія амерыканскага футболу. Каб адабраць спартыўны снарад у саперніка патрэбна адарваць адзін з дзвух прычэпленых флажкоў. Яшчэ наступным адрозненнем Флаг-футболу ад звычайнай амерыканскай версіі гэтага спаборніцтва – паменьшаны ў два разы склад удзельнікаў. Турнір па гэтай цікавай гульні будзе праходзіць у тры этапы. 3-га ліпеня ён распачнецца ў Мінску, у пачатку жніўня прадоўжыцца ў горадзе над Нёманам, а завершыцца ў верасні ў Віцебску. 12 каманд: 8 з мінскай, дзве з Віцебскай, а таксама два гродзенскія калектывы паспрабуюць вызначыць лепшага. Каманда-пераможца атрымае падтрымку ад беларускай федэрацыя амерыканскага футбола і будзе ўключана ва ўнутраны чэмпіянат. Сам чэмпіянат плануецца адкрыць у наступным годзе. У ім будзе спаборнічаць 4 клубы. Створаны ўжо тры мінскія, а за апошнію пуцёўку гродзенскім дружынам і прыдзецца паспрачацца. Аднак калі ж не атрымаецца з унутраным першанствам Аляксей Сярабракоў паспрабуе здзейсніць свае мэты праз чэмпіянаты Расеі ці Украіны, у якіх зараз гуляюць дзве беларускія каманды.

## Лондан сустракае алімпійцаў

Першымі да сталіцы 30-тых Алімпійскіх гульняў прыбылі валанцёры. Без іх дапамогі сучасныя Алімпійскія гульні проста задыхнуцца. Следам Лондан напаўняўся Алімпійскімі зборнымі краін удзельніц. Ў мэтах эканоміі НАК і некаторыя краіны адправілі на Туманны альбіон няпоўнасцю ўкамплектаваныя зборныя. Астатнія будуць прыбываць бліжэй да сваіх, ўласных алімпійскіх стартаў.Як стала вядома, ўпершыню за гісторыю Алімпійскіх гульняў сучаснасці нават зборныя каманды краін, дзе пануе радыкальны іслам далі нарэшце дазвол стартаваць і жаночым камандам Мы ж беларусы чакаем свае 25-ць Алімпійскіх ўзнагарод.




Свабоднае інфармацыйнае выданне
Заснавальнік: Абласная Рада сяброў БХД Гародні.
Надрукавана на ксераксе с. М. Кухты
Наклад 299 паасобнікаў
Адказны за выпуск: Георг Нёман